# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

28.09.12-3.10.12 г.




# ПЯТАЕ КОЛА Ў ДРАБІНЕ

За савецкім часам выбары дэпутатаў непазбежна заканчваліся “триумфом блока коммунистов и беспартийных”. Прыкладна так адбываецца і сёння.




*Без слоў*

## УЖО Ў ПЕРШЫМ ТУРЫ

Паводле афіцыйных вынікаў, 109 са 110 дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў абраны ўжо ў першым туры. Месцы ў Авальнай зале Дома ўрада атрымалі спрэс правераныя і лаяльныя да ўлад людзі. Прадстаўнікі апазіцыі ніводнага мандата не атрымалі.

Такім чынам, працэс галасавання меў цалкам фармальны характар. Спісы будучых дэпутатаў былі вызначаны значна раней за 23 верасня і нават надрукаваны ў некаторых незалежных СМІ.

Прыкладна так “выбары” адбываліся і ў Савецкім Саюзе. Праўда, у адрозненне ад Вярхоўнага Савета СССР, Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі атрымалася “шматпартыйнай”: туды трапілі некалькі прадстаўнікоў камуністычнай, аграрнай ды іншых праўладных псеўдапартый.

> “Всё большая часть населения не способна адекватно оценить и проанализировать или он до такой степени деградировал?”

## “ПРОСТЫЕ ТРУЖЕНИКИ» НЕ АКТУАЛЬНЫЯ

Аднак галоўнае непадабенства вышэйзгаданых “заканадаўчых органаў” палягае не ў гэтым. У Савецкім Саюзе пэўная колькасць мандатаў абавязкова размяркоўвалася паміж “простыми тружениками”. У Беларусі Палата прадстаўнікоў зноў амаль што цалкам складаецца з чыноўнікаў. Праўда, сярод сотні “слуг народа” заўважаны настаўнік матэматыкі, спецыяліст ААТ “БПС-Сбербанк” і інструктар па спорце ваеннай часці 5848. Аднак за апошняй пасадай хаваецца вядомы спартовец і актывіст праўладнага руху “Белая Русь” Вадзім Дзевятоўскі. Таму цалкам верагодна, што і настаўнік са спецыялістам дэ-факта таксама з’яўляюцца функцыянерамі.

Дарэчы, Дзевятоўскага ў свой час лавілі на ўжыванні забароненых стымулятараў. Каб новаабраных дэпутатаў нехта праверыў на “палітычны допінг”, то запэцканымі аказаліся б літаральна ўсе.

Пра гэта сведчаць і факты, сабраныя незалежнымі назіральнікамі. Яны лічаць, што выбары ні ў якім разе не адпавядалі стандартам роўнасці і празрыстасці, а іх вынікі сфальсіфікаваны.

*Заканчэнне на стар. 3*

**ДАСЛОЎНА**

**Парламенцкія выбары ў Беларусі прайшлі ва ўмовах спаборнасці паміж кандыдатамі ў дэпутаты. Аб гэтым гаворыцца ў заключэнні групы наглядальнікаў ад Міжпарламенцкай асамблеі дзяржаў - удзельніц СНД, размешчаным на сайце беларускага Цэнтрвыбаркама, паведамляе карэспандэнт БЕЛТА.**

У заключэнні групы наглядальнікаў ад МПА СНД, у прыватнасці, сказана: *«Удзел у выбарах 293 кандыдатаў у дэпутаты, у тым ліку прадстаўнікоў васьмі палітычных партый, выкарыстанне новых форм перадвыбарчай агітацыі, а таксама іншых дадатковых магчымасцей для ўдзельнікаў выбарчага працэсу, надало выбарам спаборнасць і прадаставіла грамадзянам Рэспублікі Беларусь рэальную магчымасць выбару»*.

**НАВІНА**

## НЕ СПАДАБАЎСЯ ЎСЁ Ж ТАКІ БАЙКОТ

Агітацыю за байкот выбараў могуць прыраўняць да грамадска-масавых мерапрыемстваў, паведаміла сёння журналістам старшыня ЦВК Беларусі Лідзія Ярмошына, паведамляе БелТА.

Норма аб правядзенні агітацыі за байкот выбараў з выбарчага заканадаўства не сыдзе. Плануецца вынесці магчымасць правядзення такой агітацыі з структуры раздзела, прысвечанага перадвыбарчай агітацыі, патлумачыла кіраўніца ЦВК.

«Калі агітацыя за байкот будзе праводзіцца, то ў рамках усіх грамадска-масавых мерапрыемстваў, а не па спрошчаным заяўным прынцыпе, ды яшчэ за бюджэтныя сродкі.

Гэта будзе самастойная дзейнасць кандыдатаў, партый, грамадзян без тых прэферэнцый, якія дае закон», — сказала Лідзія Ярмошына.



# А ВЫ ГАТОВЫ ПЛАЦІЦЬ БОЛЬШ ЗА КАМУНАЛКУ?

На днях з вуснаў кіраўніка дзяржавы прагучала наступнае: заможных людзей папрасім аплочаць 100 адсоткаў камунальных паслуг, а можа і 150, і 200. Калі ж сярэдні заробак у краіне стане пад 1000 долараў, і ўсяму насельніцтву будзе няцяжка заплаціць поўнасцю за прадастаўленне гэтых самых камунальных паслуг. Ці так гэта, разбіралася "Тут і цяпер".



*Ніколі не было такой інтрыгі з камунальнымі як цяпер*

**СЯРГЕЙ ГАЙДУКЕВІЧ, СТАРШЫНЯ ЛДПБ:**

## "ЯК ДА ГЭТАГА МОЖНА СТАВІЦЦА СУР'ЁЗНА?"

— Я апошнім часам да ўсяго, што заяўляе ўлада, стаўлюся з гумарам. Я не магу ставіцца да несур'ёзных пытанняў сур'ёзна. "Калі ў цябе, Гайдукевіч, такія даходы, то ты павінен плаціць за ўсіх і за ўсё", — ну як успрымаць гэта без гумару?! Адкінуць Канстытуцыю, законы. Як гэта ўвогуле будзе выглядаць? І журналістам раю да ўсяго гэтага ставіцца з гумарам. Я б сябе за чалавека не лічыў бы, каб пачаў зараз з сур'ёзным выглядам расказваць, што так рабіць нельга. Акрамя шчырай усмешкі ў бок улады я нічога не маю.

**ЛЕАНІД ЗАІКА, ЭКАНАМІСТ:**

## "ПРАБЛЕМА Ў ТЫМ, ЗА ШТО ПЛАЦІЦЬ".

— У Беларусі тэрмін "багатыя" паняцце сатырычнае. Таму што багатыя — гэта дырэктары прадпрыемстваў, наменклатурныя кіраўнікі. Калі прэзідэнт лічыць, што яны павінны плаціць больш, дык яны павінны пайсці і добраахвотна заплаціць больш. Дастаткова паглядзець на дэкларацыі аб даходах тых, хто заяўляўся ў парламент. Бачна, што члены парламента, супрацоўнікі ўрада зарабляюць 1,5 тысячы долараў, раённыя наменклатуршчыкі — 800 долараў. Яны павінны падтрымаць прэзідэнта дзеяннем — пайсці і заплаціць добраахвотна 150 працэнтаў "камуналкі". Цяпер па сутнасці. Усе павінны плаціць роўна столькі, колькі яны спажываюць. Пытанне ў іншым: у Беларусі 49 працэнтаў цяпла губляецца ў трубах. Гэта значыць абаграваецца глеба. Чаму беларус павінен плаціць за кепскія інжынерныя збудаванні, за тых дурняў, якія ўсё гэта будавалі? Таму ў суседніх краінах, нават у расійскім Калінінградзе, сталі ўсталёўваць аўтаномныя сістэмы ацяплення — газавыя катлы ў кожнай кватэры, зручна і нядорага. Праблема не ў тым, колькі плаціць, а ў тым, што кепская камунальная сістэма прымушае людзей аплачваць памылкі бяздарнасці і непрафесіяналізму камунальшчыкаў. Ці трэба плаціць за дрэнную працу? За страту цяпла, кепскія вокны, дрэнныя пад'езды? Як эканаміст я б замарозіў усе тарыфы і даў бы заданне: лератрахніце гэта ўсё, ад труб да кранаў. За вываз смецця павысілі тарыф у чатыры разы — людзі нават не заўважылі. Дамафон у тры разы даражэйшы за радыёкропку. Павышаюць тарыфы камунальшчыкі цішком, ноччу. Таму размову трэба весці не пра тое, колькі плаціць багатым, — у Беларусі амаль ўсе бедныя. Трэба пачынаць з навядзення элементарнага парадку ў жыллёва-камунальнай гаспадарцы. І пасля гэтага мы можам сабрацца — прадстаўнікі навуковага свету, спецыялісты, прэзідэнт, прэм'ер — і разабрацца, што ў нас атрымалася. Можа здарыцца і так, што не трэба будзе дзяліць людзей на багатых і бедных.

**МАРЫЯ САСНОЎСКАЯ, ГАНДЛЯРКА:**

## "УСЕ ПАВІННЫ ПЛАЦІЦЬ ПА-ПОЎНАЙ".

— Я супраць таго, каб нехта за нешта плаціў 50 працэнтаў. Усе павінны плаціць столькі, колькі яно каштуе. І зарабляць павінны дастойныя грошы! І калі парламент гатоў пасля грамадскага абмеркавання каму-небудзь з малазаможных нешта кампенсаваць, то гэта павінны быць грошы, а не камуналка. Я супраць усялякіх субсідый. А каб з мяне, акрамя падаткаў, бралі нешта яшчэ, я ўвогуле супраць. І за метро, і за ліфт, і за электрычнасць трэба плаціць столькі, колькі трэба. Вось у Францыі з тых, хто мільён у год зарабляе, сталі браць 75 працэнтаў падатку. І там рэзка ўсе перасталі атрымліваць па мільёну. Затое сталі атрымліваць па мільёну ў Бельгіі і Галандыі. Таму пайшлі б усе сацыялісты ў адно месца!.. Колькі кватэр мы пабудавалі талакой маладым і шматдзетным сем'ям! Ім дзяржава дала? Ва ўсіх забралі па капейчыне. Утрыманцаў забяспечваць не трэба. Калі яны будуць паміраць з голаду, ім трэба даваць бясплатны суп. А рабіць з бедных багатых, а з багатых — бедных… Успомніце рэвалюцыі і зрабіце высновы.

**АЛЯКСАНДР САСНОЎ, БЫЛЫ МІНІСТР ПРАЦЫ:**

## "БАГАТЫХ БУДУЦЬ АБАБІРАЦЬ ДВОЙЧЫ".

— Я стаўлюся дрэнна да гэтай ідэі, бо тыя, хто атрымлівае ад нейкай працы больш грошай, і падаткаў больш плацяць. А з падаткаў выдзяляюць грошы на датацыі той жа самай "камуналцы". Таму атрымліваецца, што іх будуць абабіраць двойчы. А хто ў нас бедны, а хто багаты, хай вызначаюць тыя, хто любіць лічыць грошы ў чужых кішэнях.

**АПЫТАННЕ ПРАВЁЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

# ПЯТАЕ КОЛА Ў ДРАБІНЕ

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

Ва ўмовах пасіўнасці выбаршчыкаў, якую засведчыла і старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына, членам выбаркама нават даводзілася займацца прыпіскамі датычна колькасці ўдзельнікаў галасавання. Ну і лічылі бюлетэні яны ў абстаноўцы звышсакрэтнасці, на гарматны стрэл не падпускаючы назіральнікаў. Навошта так рабіць, калі няма чаго хаваць?

## НЕ ХАПАЕ У ЭЛЕКТРАТА "БЛАГОРОДСТВА"

Афіцыйна ўсё ў парадку, але энтузіязм з гэтай нагоды значна меншы, чым у мінулыя разы. Чаму так?

Хітом выбарчай кампаніі лічацца заявы старшыні Цэнтрвыбаркама Лідзіі Ярмошынай, зробленыя ёю падчас інтэрв'ю "Камсамольскай праўдзе". Яна пытаецца сама ў сябе:

"Всё большая часть населения не способна адекватно оценить и проанализировать или он до такой степени деградировал?"

"Способен ли этот электорат оценить благородство, честность, порядочность?"

"И ради этого электората, извините за выражение, стоит работать и стараться?"

У словах Ярмошынай чуецца непрыхаваная пагарда да выбаршчыкаў. Дык сапраўды, чым тады ганарыцца, калі дэпутатаў выбіраюць людзі, якія дэградавалі?

Аднак сумуе ўлада, натуральна, не з гэтай нагоды, бо такі стан насельніцтва спрыяе захаванню статус-кво. Проста намаганні па правядзенні выбараў даюць на выхадзе пшык. Другая ўлада, якой у дэмакратычных краінах лічыцца парламент, ператварылася ў "пятае кола драбіны", якой кіруе Лукашэнка. Палата прадстаўнікоў няздольная нават адыграць ролю шырмы, стварыць уражанне, што ў Беларусі сапраўды існуе заканадаўчы орган. У гэта ўжо не верыць большасць шараговых грамадзян.

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# ПАДВОЙНЫ ЗРОК ВЫБАРЧЫХ КАМІСІЙ

## ЦУД, ЯКІ НЕ АДБЫЎСЯ

На парламенцкіх выбарах Гомельшчына, можна сказаць, падвяла пад манастыр увесь беларускі кіруючы рэжым — не выбрала аднаго дэпутата ў Палату прадстаўнікоў у Гомельскай-Навабеліцкай акрузе № 36. Шаснаццаць выбрала, а аднаго — не. І гэты адзіны неабраны на ўсю Беларусь: 109 дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў ёсць, а сто дзясятага — няма.

"Кандыдат не набраў патрэбнай колькасці галасоў. Большасць выбаршчыкаў прагаласавала супраць", — заявілі ў акруговай камісіі.

Напачатку ў 36-й акрузе было ажно тры кандыдаты. Але кандыдат ад Аб'яднанай грамадзянскай партыі Уладзімір Няпомняшчых зняў сваю кандыдатуру на знак пратэсту — у выбарчых камісіях, па сутнасці, не было прадстаўнікоў апазіцыі, а ў турмах па-ранейшаму знаходзіліся палітзняволеныя.

Напярэдадні датэрміновага галасавання з выбарчай гонкі па ўласнай заяве сышоў і праўладны кандыдат, памочнік прэзідэнта — галоўны інспектар па Гомельскай вобласці Ігар Пракапенка, якога пасля рэгістрацыі кандыдатам Аляксандр Лукашэнка нечакана вызваліў ад пасады.



*Зрок можа быць і "падтройным" і паддваццатым"*

Блізкія да ўлад крыніцы звязалі нечаканы сыход Пракапенкі са справай пра махінацыі з кватэрамі, на якіх пагарэлі ўжо чатыры кіраўнікі ўпраўлення капітальнага будаўніцтва Гомельскага гарвыканкама і сам старшыня выканкама Віктар Піліпец. На гэтую тэму нядаўна выказаўся і Аляксандр Лукашэнка: "Некаторыя чыноўнікі, як гэта здарылася ў Гомелі, бралі дзясяткамі кватэры ды перапрадавалі, а грошы клалі сабе ў кішэню. Сёння крымінальная справа ўзбуджана, і не адзін чыноўнік са сваімі сваякамі і набліжанымі сядуць на лаву падсудных".

Нечаканы сыход двух кандыдатаў з дыстанцыі расчысціў поле для агітацыі трэцяму кандыдату — вылучэнцу Ліберальна-дэмакратычнай партыі 31-гадоваму энергетыку прыватнага прадпрыемства Сяргею Мельнікаву. Па збегу акалічнасцей ён застаўся без канкурэнтаў, але не дамогся дэпутацкага мандата.

— Камісія мне напісала 13 працэнтаў з невялікім. Ніякіх больш каментараў! — заяўляе экс-кандыдат.

Выбары адбыліся, 56 працэнтаў выбаршчыкаў Навабеліцкай акругі, здаецца, ледзь ці не прыскакалі на ўчасткі. І ажно 86 працэнтаў — нібыта дзеля таго, каб прагаласаваць супраць адзінага ў акрузе кандыдата. Вынік сам па сабе даволі красамоўны: не было праўладнага кандыдата, выбары адбыліся, але дэпутат не абраны.

Рэгіянальны каардынатар кампаніі "За справядлівыя выбары" Уладзімір Кацора так каментуе сітуацыю ў Навабеліцкай акрузе № 36: "З самага пачатку было зразумела, што цуд не адбудзецца і ўлады, хутчэй за ўсё, прыдумаюць варыянт, як не прапусціць так званага ліберал-дэмакрата у парламент. Сцэнар, які яны ажыццявілі, самы ўдалы для ўлады: выбары адбыліся, але дэпутат не абраны. Народ не аказаў даверу кандыдату ад ЛДП. Цалкам усё прыгожа. Так будзе і надалей, калі не будзе справядлівых выбараў".

І сумнявацца ў адваротным не даводзіцца.

## ПРЫПІСАЛІ… І АБРАЛІ

У Навабеліцкай акрузе не было татальнага назірання. Ліберальна-дэмакратычная партыя наогул не мела тут назіральнікаў, нягледзячы на існаванне свайго безальтэрнатыўнага кандыдата. Але можна правесці паралелі. Да прыкладу, чатыры гады назад у цяперашняй Гомельскай-Савецкай акрузе № 34, па звестках агульнага назірання, на выбарчыя ўчасткі прыйшло каля 35 працэнтаў выбаршчыкаў. Камісіі амаль падвоілі яўку і такім чынам "абралі" дэпутата.

*Заканчэнне на стар. 8*

# ЦІ АДБУДЗЕЦЦА РЭБРЭЙДЗІНГ

Напачатку жніўня старшыня КДБ Беларусі Вадзім Зайцаў зацвердзіў, а генпракурор Аляксандр Канюк узгадніў правілы ўнутранага распарадку ў следчых ізалятарах органаў дзяржаўнай бяспекі.

На што маюць права тыя, хто трапляе ў СІЗА КДБ, даследвала **"Тут і цяпер"**

## ДАТАЧЫЦЦА КОЖНАГА?

Не так даўно былы суддзя Канстытуцыйнага суда **Міхаіл Пастухоў** гаварыў, што лічыць важным апублікаваць правілы знаходжання асоб у месцах пазбаўлення волі. Бо у нас такая ў гэтым сэнсе ненадзейная краіна, што сёння гэтае жыццё ў СІЗА цябе можа і зусім не тычыцца, але хто ведае, што будзе заўтра?

*"Я лічу важным апублікаваць правілы знаходжання асоб у месцах пазбаўлення волі, у турмах, СІЗА – гэта ўсё павінна быць на ўзроўні закона, а не на ўзроўні нейкіх унутраных інструкцый і гэтак далей,* – выказвае сваю думку Міхаіл Іванавіч. – *Правілы і забароны, устаноўленыя яшчэ з 30-х гадоў, павінны быць сур'ёзна пераглежаныя і падвергнуты зменам.*

*І я перакананы, што нам трэба новае заканадаўства аб пенітэнцыярнай сістэме. Сістэма адбыцця пакарання павінна быць цывілізаванай. Неабходны закон аб парадку заключэння пад варту, закон аб парадку пазбаўлення волі, адбыцця пакарання і г.д".*

**Цяпер жыхарам СІЗА КДБ можна гуляць не толькі ў нарды, шахматы і шашкі, але і ў даміно.**

## ТОЛЬКІ НА "ВЫ"!

Мінулыя правілы "паводзінаў" у СІЗА КДБ зацвярджаў у кастрычніку 2003 года тагачасны кіраўнік КДБ Леанід Ерын, узгадняў – генпракурор Віктар Шэйман. Прынцыповых адрозненняў у мінулых і цяперашніх правілах няма – сеё-тое скарацілі, некаторыя пункты ўдакладнілі.

Варта адзначыць, што і ў тых, і ў гэтых правілах было адразу прапісана, што кліентам СІЗА КДБ гарантаваныя адносіны, якія не прыніжаюць чалавечую годнасць. І 10 гадоў, і цяпер да зняволеных супрацоўнікі СІЗА павінны былі звяртацца выключна на "Вы". Чаму яны гэтага ў асобных выпадках не рабілі – тэма для асобнай размовы.

Напрыклад, **Леанід Ерын** лічыў неабходным, каб камера СІЗА была абсталявана насценным люстэркам. А вось для **генерала Зайцава** люстэрка – дробязь. Яго у камеры, згодна новых правілах, на сцяне можа і не быць. Зато, паводле свежых правілаў ад Зайцава, камера СІЗА павінна быць абсталявана шафай для прадуктаў, вешалкай для верхняй адзежы, свяцільнікам дзённага і начнога асвятлення, а таксама тазікамі для гігіенічных мэтаў.

І пры Ерыне, і пры цяперашнім кіраўніку КГБ у "паковях" СІЗА былі радыёкропка, кнопка для выкліку прадстаўніка адміністрацыі, урна для смецця.

Могуць быць усталяваны у камерах таксама тэлевізар і халадзільнік (па меры магчымасці).

Душ зняволеным, як і было, – раз на тыдзень. А вось настольных гульняў паболела. Цяпер жыхарам СІЗА КДБ можна гуляць не толькі ў нарды, шахматы і шашкі, але і ў даміно.



*… І будзе вам шчасце*

## СТРАШНЫ СОН ДЗМІТРЫЯ УССА

Бізнесмен і кандыдат у прэзідэнты **Дзмтрый Усс** сёння гаворыць, што ўзгадвае СІЗА КДБ проста як сон. Зразумела, не самы прыемны ў жыцці.

"Да мяне звярталіся на "ты", – ўзгадвае Дзмітрый Ус. – Ні шашак, ні шахмат у нас у камеры не было. Індывідуальнага спальнага месца таксама не было – нас было пяцёра, а спальных месцаў – чатыры. Затое падушка і коўдра былі.

Лыжку таксама давалі і кружку. Тэлевізар быў, але ён не працаваў. Халадзільніка не было...

Успамінаю цяпер – як быццам гэта сон быў..."

## ПРАГУЛКІ АЛЯКСАНДРА ФЯДУТЫ

Палітолаг і адзін з лідараў грамадзянскай кампаніі "Гавары праўду!" **Аляксандр Фядута** трапў у СІЗА КДБ адразу пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года. З правіламі ўнутранага распадарку яго, як і ўсіх астатніх, каго затрымалі ў ноч пасля прэзідэнцкіх выбараў, азнаёмілі. А потым адабралі.

"Правілы распрядка напісаны як мінімум на чатырох старонках, – узгадвае сумны досвед спадар Фядута. – Нам далі з імі азнаёміцца, а потым у нейкі момант іх забралі. Мы запатрабавалі ў начальніка СІЗА палкоўніка Арлова, каб нам іх вярнул, на што ён, іранічна ўсміхаючыся, сказаў: маўляў, вы ведаеце, што калі правілаў няма, то іх прасцей парушыць, а вы ўсё роўна ўжо распісаліся, што з імі азнаёмленыя. Я ўдакладніў: прасцей парушыць іх толькі нам ці вашым сотрдникам таксама? З ягоных слоў вынікала, што супрацоўнікі СІЗА маюць правілы перад вачыма..."

Аляксандр Іосіфавіч гаво-

# СІЗА КДБ?

рыць, што ў СІЗА яму толькі аднойчы "тыкнулі".

"Да мяне там звярталіся на "Вы", – кажа Фядута. – Праўда, аднойчы адзін з кантралёраў (так называюць асоб, якія абавязаны сачыць за тым, што адбываецца ў камеры праз вочка) звярнуўся да мяне на "ты". І на маё пытанне: а што, правілы ўжо адменены, перапытаў: якія правілы? Пасля гэтага мне больш ніхто не тыкаў".

А вось са шпацырамі ў Фядуты асобная гісторыя.

"Шпацыр – гадзіна альбо дзве – быў па выбару камеры, – распавядае вядомы палітолаг. – І да з'яўлення ў "амерыканцы" палітычных шпацыр быў справай добраахвотнай. А з нашым з'яўленнем яго зрабілі абавязковым. І калі нехта адзін адмаўляўся, шпацыраваць не пускалі ўсю камеру. Таму мы ператвараліся ў закладнікі настрою адзін аднаго. І, натуральна, нават калі не вельмі хочацца ісці на вуліцу, я не магу пакінуць калегаў па камеры без свежага паветра, калі яны гэтага хочуць. Двойчы мне хлопцы ішлі насустрач. Першы раз, калі гэтая норма была толькі-толькі вынайдзена. А другі – калі я сябе дрэнна адчуваў, а лекар не даў мне вызвалення, камера адмовілася ад шпацыру, каб я змог спакойна ляжаць.

Але шпацыр меў і адваротны бок. Мы ўсе вымушаныя былі пайсці гуляць, калі ў Сашы Малчанава была высокая тэмпература. У выніку на наступны дзень тэмпература ўжо была ў траіх – у Малчанава, Фядуты і Аліневіча. І тады ў мяне пачаўся канфлікт з лекарам..."

**МАРЫНА МІТ**



*Даміно – гэта, канешне, плюс*

**ЦЫТАТНІК**

*...Супрацоўнікі СІЗА пры ажыццяўленні мер па забеспячэнню ўтрымання асобаў пад вартай абавязаны гуманна звяртацца са зняволенымі і паважаць іх чалавечую годнасць.*

*...Асобы, якія змяшчаюцца пад вартай, маюць права на ветлівае абыходжанне з боку супрацоўнікаў СІЗА. Да іх трэба звяртацца на"Вы" і называць іх "грамадзянін" або "грамадзянка" і далей па прозвішчы альбо адпаведна "падазраваны"",абвінавачаны"ці"асуджаны".*

*…Асобы, якія змяшчаюцца пад вартай, павінны быць ветлівымі паміж сабой і ў звароце з супрацоўнікамі СІЗА. Да супрацоўнікаў СІЗА яны павінны звяртацца на "Вы".*

*...Асобы, якія ўтрымліваюцца пад вартай, знаходзяцца ў СІЗА пад аховай і наглядам і перасоўваюцца па яго тэрыторыі ў суправаджэнні супрацоўнікаў СІЗА. У мэтах ажыццяўлення кантролю за іх паводзінамі можа выкарыстоўвацца аўдыё-і відэатэхніка.*

*...Асобы, якія змяшчаюцца пад вартай, якія праходзяць па адной крымінальнай справе, размяшчаюцца асобна. Асуджаныя, якія змяшчаюцца ў СІЗА ў сувязі з прыцягненнем у якасці падазраваных і абвінавачаных па іншых крымінальных справах, размяшчаюцца па камерах сумесна з іншымі падазраванымі і абвінавачанымі з захаваннем патрабаванняў ізаляцыі.*

*...Для размяшчэння цяжарных жанчын і жанчын, якія маюць пры сабе дзяцей ва ўзросце да трох гадоў, выкарыстоўваюць найбольш светлыя і сухія камеры, як правіла, размешчаныя ізалявана. Камеры абсталёўваюцца аднаяруснымі спальнымі месцамі.*

*...Асобам, якія змяшчаюцца пад вартай, штодня прадастаўляецца трохразовае харчаванне. На перыяд ўтрымання ў СІЗА яны забяспечваюцца для індывідуальнага карыстання спальным месцам, матрацам, падушкай, коўдрай, двума прасцінамі, навалачкай, ручніком, міскай, кружкай, лыжкай, калі трэба – адзеннем, сродкамі асабістай гігіены.*

*...Не радзей аднаго разу на тыдзень асобам, якія змяшчаюцца пад вартай, прадастаўляецца магчымасць наведаць душ працягласцю не менш за 15 хвілін. Змена пасцельнай бялізны ажыццяўляецца штотыдзень пасля у ў душы".*

*...Асобам, якія змяшчаюцца пад вартай, прадастаўляецца права падпіскі на газеты і часопісы, якія распаўсюджваюцца праз аддзяленні сувязі Рэспублікі Беларусь. Колькасць выданняў, на якія можа быць афармлена падпіска, не абмяжоўваецца.*

*...Асобы, якія ўтрымліваюцца пад вартай, карыстаюцца штодзённым шпацырам працягласцю не менш за два гадзін, а непаўналетнія – не менш за тры гадзіны.*

# У БЕЛАРУСІ З'ЯВІЛІСЯ СВАЕ СУПЕРСТАЙЕРЫ

**Адна з магілёўскіх участковых камісій пацвярджае знакамітую тэорыю Энштэйна.**

Гэтую тэорыю, як вядома, разумеюць ці не адзін прафесійны фізік са ста. Пераламленне часу, рознасць ягонага бегу, якая залежыць ад хуткасці руху фізічнага цела.

Звычайнымі ж прадстаўнікамі ад Магілёўскага ўніверсітэту, якія склалі асноўны касцяк 62-й участковай камісіі па выбарах дэпутата ў 85-ай Цэнтральнай выбарчай акрузе, гэты "моцны арэшак" Эйнштэйна быў запраста і лёгка расцярушаны. Хоць універсітэт і гуманітарны ў асноўным, але, відаць, што пара фізікаў-матэматыкаў, а можа навт і хімікаў у камісіі знайшлася.

Самі мяркуйце. Па афіцыйных дадзеных гэтай камісіі яўка выбаршчыкаў тут склала 59 адсоткаў (усяго на ўчастку 1415 выбаршчыкаў, удзел узялі 835 чалавек, датэрмінова прагаласавалі 216, на ўчастку – 371).

Па дадзеных жа незалежных назіральнікаў, на ўчастак у асноўны дзень выбараў прыйшло 286 чалавек. Аднак высокі вынік удзелу волевыяўлення магілёўцаў, што былі прыпісаны да гэтага ўчастка, дало галасаванне "на даму", якое было забяспечана пры дапамозе пераносных урнаў. На даму прагаласавалі 248 чалавек!

Пры чым тут Эйнштэйн?! Пры тым, што даводзіцца палягацца на праўдзівасць ягонай тэорыі, пацверджанай у Магілёве практычна-эксперыментальна. Бо няцяжка падлічыць у столбік, як гаворыцца (без усялякага Эйнштэйна), што нават калі на аднаго прагаласаваўшага дома "выязднымі сябрамі" участковай камісіі было выдатавана па 5 хвілінаў, то яны мусілі б хадзіць па дамах бесперапынна больш за 10 гадзінаў адначасова, карыстаючыся 2-ма выбарчымі скрынямі...

**А НА САМОЙ СПРАВЕ**

**Формула разліку: 248 галасоў х 5 хвілін / 2 скрыні / 60 хвілін = 10 гадзінаў. Хадзілі ж на самой справе разоў 6-7, два разы з імі побач быў незалежны назіральнік Аляксей Колчын – пры ім было самае большае 15 прагаласаваўшых...**

**ВІКТАР ВОЙТ**

# ВЫБАРЫ-2012: РОГАТ

**Шмат хто казаў, што наша перадвыбарная кампанія была нецікавай, сумнай, "без аганьку" і гэтак далей. Тыя, хто так думае, хутчэй за ўсё пазбаўлены пачуцця гумару і не надта цікавяцца палітыкай.**

Насамрэч кампанія была багатая на анекдоты. Ды і сама яна стала суцэльным анекдотам задоўга да пачатку выбараў і будзе выклікаць усмешкі пасля іх.

## ПРАРОКІ "ГОМСЕЛЬМАША"

У калектыве "Гомсельмаша", як толькі ён ачуняў ад святкавання Новага (2012) года і пачаў працаваць, адразу пачаўся ціхі шухер: "Жмайлік сыходзіць! Жмайлік здае справы!" (Валерый Жмайлік — генеральны дырэктар "Гомсельмаша".) "Куды сыходзіць?" "У дэпутаты!"

Нагадаем: у студзені, калі Цэнтрвыбаркам яшчэ толькі чухаў патыліцу, разважаючы аб тым, на якую дату прызначаць выбары ў парламент і ці прызначаць іх увогуле, "Гомсельмаш" ужо ведаў — Жмайлік будзе дэпутатам.

І не памыліліся ж — Жмайлік стаў дэпутатам па Гомельскай-Сельмашаўскай акрузе № 32. Жмайлік, канечне, добры мужык, для "Гомсельмаша" шмат чаго зрабіў, але так выбары не робяцца.

> "Бюлетэні запячатваюцца, дзверы адчыняюцца, старшыня і сакратар накіроўваюцца да выхада, старшыня, трымаючы ў руцэ пратакол, збіраецца прыляпіць яго да дзвярэй, і ў гэты момант жанчына, якая падчас падліку галасоў знаходзілася сярод назіральнікаў, вырывае яго з рук і ўцякае!"

## ПРЫВІДЫ САВАНОВІЧА

Міхаіл Савановіч вырашыў змяніць пасаду старшыні Мінгарсавета на мандат дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу. Вылучаўся ад працоўнага калектыву па 104-й Кальварыйскай выбарчай акрузе сталіцы, што вельмі здзівіла той самы працоўны калектыў.

Па сцвярджэннях асобных работнікаў ЖЭС-48 і ЖРЭА-1 Фрунзенскага раёна Мінска, яны не вылучалі кандыдатуру Савановіча на выбары, у якіх ён перамог. Адпаведную заяву ў пракуратуру Мінска падаў майстар ЖЭС-48 Павел Спірын, да яго далучыліся яшчэ дзевяць супрацоўнікаў арганізацыі, якія заявілі, што сход па вылучэнні Міхаіла Савановіча ў іх арганізацыі не праводзіўся.

Нават дырэктар ЖЭС-48 і ЖРЭА-1 Фрунзенскага раёна Мінска Ганна Ягоршава заявіла, што нічога не чула аб правядзенні ў ЖЭС сходу па вылучэнні каго-небудзь кандыдатам у дэпутаты.

Пэўна, у Савановіча свой ЖЭС, які складаецца выключна з прывідаў. Прывіды Кальварыйскай акругі ў захапленні!



*З альтэрнатывай апошнім часам стала зусім цяжка.*

## "ДОБРА, ШТО НЕ З'ЕЛА..."

Не менш цікава і тое, што адбывалася на выбарчых участках. На ўчастку № 594 Усходняй выбарчай акругі № 107 Мінска старшыня ўчастковай камісіі абвяшчае лічбы: "Па спісах выбаршчыкаў прагаласавала 317 чалавек, 833 бюлетэні засталіся незапатрабаванымі (камісіі было выдадзена 1150). З 1109 выбаршчыкаў, якія пражываюць у акрузе, 317 прагаласавала (79 датэрмінова, 54 дома і 184 у дзень галасавання). Выбары не адбыліся".

Бюлетэні запячатваюцца, дзверы адчыняюцца, старшыня і сакратар накіроўваюцца да выхада, старшыня, трымаючы ў руцэ пратакол, збіраецца прыляпіць яго да дзвярэй, і ў гэты момант жанчына, якая падчас падліку галасоў знаходзілася сярод назіральнікаў, вырывае яго з рук і ўцякае!

Праз 3 гадзіны назіральнікам паведамляюць: прагаласавала 565 чалавек, выбары адбыліся. Усе смяюцца і спрабуюць знайсці жанчыну: цікава, з'ела яна гэты пратакол, ці не?

## А СЛАБО ПАЧАК ПАПЕРЫ?

Тое ж самае, толькі ў больш анекдатычнай форме, адбылося на ўчастку 586 згаданай 107-й акругі. З 1125 чалавек прагаласавалі 346. Столькі ж бюлетэняў было ў урнах. Але старшыня камісіі, намеснік дырэктара гімназіі № 6 Надзея Раманчук, схапіўшы бюлетэні да абвяшчэння вынікаў галасавання, уцекла з участка. Яе галоўная памагатая — сакратар камісіі выкладчыца англійскай мовы названай гімназіі Вольга Кажанкова абвясціла (калі бюлетэні ўжо былі вынесены з участка), што прагаласавала 573 чалавекі.

Назіральнікі смяюцца: Раманчук ператварылася ў пінгвіна з "Мадагаскара" (ёсць такі мульцік), які па жаданні можа званітаваць патрэбны прадмет. Гэтым разам — дадатковыя бюлетэні.

## А НУ ГЭЦЬ АДСЕЛЬ!

У вёсцы Прыдняпроўе Аршанскага раёна ўчастковая камісія прыехала з вынасной урнай да пажылых людзей, якія

# СКРОЗЬ СЛЁЗЫ

аддзячылі зусім не па-людску. Калі сябры ўчастковай камісіі разам з назіральнікам ад БХК Васілём Берасневым зайшлі на падворак пенсіянеркі Валадзько і прапанавалі ёй прагаласаваць, жанчына выхапіла драўляны кол са свайго плота і накінулася на няпрошаных гасцей. Камісія ледзь уцячы паспела, каб не атрымаць колам па плячах.

**Акруговыя камісіі яшчэ не зацвердзілі вынікі галасавання ў сваіх акругах, яшчэ не былі разгледжаны скаргі аб парушэннях, недзе яшчэ ішла гулянка з нагоды заканчэння галасавання, а ЦВК ужо абвясціў дэпутатамі 109 са 110 асоб.**

## ВЕДАЙ СВАІХ!

Зміцер Кавалгін, намеснік старшыні Мінскай гарадской арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі, які жыве ў 98-й Грушаўскай акрузе Мінска, вырашыў прабайкатаваць выбары. Ляжаў сабе дома на канапе, калі да яго раптам прыйшлі з заклікам прагаласаваць. Што ж рабіць — прыйшлі дык прыйшлі. Узяў бюлетэнь і пабачыў, што на ім няма абавязковых подпісаў сябраў выбарчых камісій. Кавалгін азвярэў, забраў з сабой бюлетэнь і накатаў скаргу на сябраў участковай камісіі. Па-першае, за тое, што прыйшлі да яго без запрашэння (а галасаванне дома дазволена толькі тым, хто запрасіў да сябе членаў камісіі), а па-другое, за тое, што яму падсунулі "левы" бюлетэнь.

Так "палітычная недасведчанасць" аб жыхарах участка стала вялікай непрыемнасцю для камісіі.

## І БОЛЬШ ЗА ТОЕ…

Больш за тое, той жа Кавалгін паскардзіўся свайму сябру — адначасова і сябру акруговай выбарчай камісіі 98-й Грушаўскай акругі Сяргею Вазняку. Вазняк зарэгістраваў скаргу і звярнуўся да старшыні камісіі з просьбай неадкладна яе разглядзець. Старшыня сказала, што пакуль няма часу — пачынаецца падлік галасоў, "а вось заўтра…". Што "заўтра", Вазняк не зразумеў (на заўтра на 17 гадзін было прызначана пасяджэнне камісіі аб зацвярджэнні вынікаў галасавання) і накатаў скаргу — на гэты раз на старшыню камісіі, у ЦВК.

І вось наступіла "заўтра". 24 верасня ў 03:50 раніцы ЦВК абвясціў спіс дэпутатаў, якія былі абраны ў Палату прадстаўнікоў. Акруговыя камісіі яшчэ не зацвердзілі вынікі галасавання ў сваіх акругах, яшчэ не былі разгледжаны скаргі аб парушэннях, недзе яшчэ ішла гулянка з нагоды заканчэння галасавання, а ЦВК ужо абвясціў дэпутатамі 109 са 110 асоб.

Смех да слёз. Заслона.

**СЯРГЕЙ КОЎШ**




*Прывіды, суцэльныя прывіды*

Усе сумленныя грамадскія актывісты, за выключэннем шчыльна занятых на катролі за выбарамі ў Ніжнюю Палату Нацыянальнага сходу, у нядзелю развіталіся з заўчасна памёрлай Хрысцінай Шацікавай.

## У МАГІЛЁВЕ Ў НЯДЗЕЛЮ ХАВАЛІ ДЭМАКРАТКУ, У КРАІНЕ – ДЭМАКРАТЫЮ

На пахаванне палымяннай патрыёткі, бясстрашнай праваабаронцы, прыгожай маладой жанчыны, якую ў яе 37 год хутка і балюча забрала ад сям'і і шматлікіх паплечнікаў нястомная хвароба, у родавую вёску Дубінка пад Магілёвам прыехалі разам з магілёўскімі сябрамі і шматлікія паплечнікі Хрысціны з Мінска, Віцебска, Оршы, Масквы і Санкт-Пецярбурга.

На вясковыя могілкі павольна ехала пад імжой працяглая кавалькада аўтамабіляў, першы з якіх быў убраны ў бел-чырвона-белыя колеры нацыянальнага сцяга. На могілках усё прайшло стрымана і сціпла. Так хацела сама Хрысціна... Але гора сям'і і страта, якую панесла беларуская наўноўшая дэмакратыя, былі настолькі відавочнымі і кранальнымі, што фізічна адчуваліся над натоўпам людзей, якія прыйшлі пакланіцца Хрысціне і сказаць ёй услых ці пра сябе вялікае дзякуй за цудоўны прыклад сумленнага жыцця. Яно выразна пацвердзіла некалі выказаную кімсьці простую і дакладную думку: жыццё кароткае – Радзіма вечная.

Сапраўды... Жыццё кароткае – Сумленне вечнае. Жыццё кароткае – Праўда вечная. Жыццё кароткае – Гонар вечны. Жыццё кароткае – Памяць вечная... Гэта ўсё пра Хрысціну.

...Ну, а што тычыцца таго, што ўлада называе ў нас выбарамі, то яны з таго шэрагу паняццяў, якія пярэчаць і імкнуцца абвергнуць гэтыя натуральныя рэчы. Хрысціна за іх ахвяравала сваім жыццём. За абвяржэнне гэтых паняццяў апосталы ўлады ахвяруюцца сумленнем і прыстойнасцю... Ёй падаецца, што яна, улада, перамагае. Вось і рапарты аб актыўных выбарах, яшчэ да іх сканчэння, з усіх афіцыйных дзяржаўных крыніцаў гучалі сёння ў Магілёве ды і па ўсёй краіне напышчана і фанфарна. Але па Магілёве ў нядзелю гэтага ніколькі не адчувалася – спустошаны і прыціхлы горад міжвольна акампаніраваў таму настрою, што панаваў у гэты дзень у вёсцы Дубінка. А там ішло пахаванне выбітнай дэмакраткі – і ніхто не думаў гэта схаваць. А тут ішло пахаванне самой дэмакратыі, якое старанна заглушалі фанфары, музыка, буфетны грукат шклянак...

Сёння яны перамаглі. Але... жыццё кароткае.

**ВІКТАР ВОЙТ**

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 3*

# ПАДВОЙНЫ ЗРОК ВЫБАРЧЫХ КАМІСІЙ




*З матэматыкай у выбарчых камісіях зусім заблыталіся*

Сёлета на выбарчых участках Савецкай акругі № 34 усё паўтарылася. Па выніках агульнага бесперапыннага назірання на 27 участках акругі прагаласавалі 35,1 працэнта выбаршчыкаў, а камісія падала 69 працэнтаў. Зноў амаль падвоілі яўку.

"Ўражанне жахлівае, — кажа наглядальніца з участка № 20 згаданай Савецкай акругі Людміла Судзілоўская. — Нават у самым страшным сне нельга такому спраўдзіцца, як я пабачыла на 20-м участку. Па-першае, абсалютная сакрэтнасць ва ўсім, што тычылася колькасці выбаршчыкаў, бюлетэняў. Па выніках назірання на ўчастку прагаласавалі 507 выбаршчыкаў, а ў пратаколе камісія паставіла 1149. Розніца — 642 чалавекі. Не толькі прыпісалі, але і ў скрыню датэрміновага галасавання кінулі столькі бюлетэняў, колькі хацелі".

Яшчэ адзін наглядальнік кампаніі "За справядлівыя выбары" Станіслаў Яленскі лічыць, што трэба хадайнічаць аб тым, каб участковую камісію № 27, якая складалася з супрацоўнікаў тэхнічнага ўніверсітэта імя П.Сухога, наогул уключылі ў Кнігу рэкордаў Гінэса — за хуткасць галасавання выбаршчыкаў дома.

Пайшлі чальцы камісіі з пераноснай скрыняй па кватэрах, вярнуліся праз паўтары гадзіны і заявілі, што дома прагаласавалі 385 чалавек.

Яленскі акругліў і прыкінуў: 100 хвілін х 60: 385 =15. Атрымліваецца, што кожныя 15 секунд выбаршчык апускаў бюлетэнь у пераносную скрыню.

Усяго ж на ўчастку вёрткія выбаршчыкі "наапускалі" нібыта 1695 бюлетэняў (66,4 працэнта), хаця наглядальнікі зафіксавалі толькі 1226 выбаршчыкаў, альбо 48 працэнтаў.

У Светлагорску на выбарчым участку ў сярэдняй школе № 1 наглядальнікі наогул заўважылі ўкідванне бюлетэняў у скрыню для галасавання. І рабіла гэта настаўніца школы Марына Шарубіна.

Тое ж самае ўбачыў у Калінкавічах наглядальнік Васіль Сіліверст на выбарчым участку № 9, пра што і напісаў у пракуратуру і Цэнтрвыбаркам. А ўкідваў бюлетэні ў скрыню сам старшыня ўчастковай камісіі, намеснік начальніка ўпраўлення сацыяльнай абароны насельніцтва райвыканкама Анатоль Палазнік.

Партыя левых "Справядлівы свет" назірала за выбарамі на 25 участках 33-й Гомельскай-Цэнтральнай выбарчай акругі. Сярэдняя яўка гараджан там склала 40,1 працэнта, а па звестках акруговай камісіі ў акрузе прагаласавалі амаль 64 адсоткі выбаршчыкаў.

Наглядальнік з участка № 42 ад "Справядлівага свету" Сяргей Логвінаў распавёў: "Я, як апошні дэбіл, сядзеў, лічыў. Чалавек у скрыню апускае бюлетэнь — я пішу: адзін, другі — другі. Налічыў за дзень , што кінулі 535 бюлетэняў. А калі камісія вывесіла пратакол, то ў ім значылася 1141. 606 чалавек проста прыпісалі. 535 — гэта 30 працэнтаў, а ім трэба было як мінімум 53 працэнты тых, хто прагаласаваў. Вось яны і напісалі 1141 і ўсе, канечне, за праўладнага кандыдата — начальніка аддзела адукацыі Цэнтральнага раёна Леўшунова. Старшыня камісіі паглядзела на нас з жалем у вачах: маўляў, ну што я магу зрабіць? А я ім: "Вы як з бадуна, у вас у вачах дваіцца". Я мог з раніцы такі пратакол напісаць, які яны вывесілі — хто выйграе і колькі чалавек прыйдзе". І здзекліва дадаў: "Вось як добра: нам і думаць не трэба, каго выбіраць".

## СВАБОДА ПАДРАЗУМЯВАЕЦЦА

Многія гамяльчане, з кім давялося гутарыць наконт выбараў, адказвалі, што на іх не хадзілі. Чаму, патлумачыла гараджанка Тамара: "А чаго на іх хадзіць? Усё было загадзя падрыхтавана і вядома, хто ўвойдзе ў гэты парламент. Рабілі бачнасць, што выбары свабодныя".

Тым часам высокапастаўленыя ўладныя чыноўнікі заяўляюць, што "выбары былі спакойнымі і выніковымі" і што "апазіцыя ў іх не прайшла". Зразумела, тая, якая не знялася з выбараў і, відаць, не ведала пра падвойны зрок выбарчых камісій.

**АЛЯКСЕЙ КЛІМОВІЧ**



**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактор** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 22:45 28.09.12
Тыраж 299 экзэмпляраў